ПАМЯЦЬ XX СТАГОДДЗЯ 1908

# Куміры мільёнаў

Міхал МАТУШ

Ніхто і ніколі не заваёўваў мільёны людзей з такой хуткасцю, як кіно. Ужо праз месяц пасля дэманстрацыі братамі Люм'ер свайго «сінематографа» ў «Вялікім кафэ» на парыжскім бульвары Капуцынак кінапраектар з'явіўся ў Італіі, Германіі, Расіі, Японіі і, зразумела, у Новым Свеце. Актыўныя людзі адкрывалі кіназалы, і не будзе перабольшаннем сказаць, што чалавецтва хадзіла ў гэтыя «ілюзіёны» часцей, чым у царкву.

Найбольшай знакамітасцю таго рамантычнага часу сінематографа стаў Макс Ліндэр. Ён пачаў здымацца ў 1905 годзе, калі яму было 22 гады. Невысокі рост не абяцаў акцёру поспеху ў гледача. Але Ліндэр зрабіў стаўку на любоўную тэматыку, якая прасякае ўсе яго ганныя камічныя ролі. Сцэнарыі карцін Ліндэра немудрагелістыя: прывабны франт з д'артаньянаўскімі вусікамі асвойвае з-за любові нейкі занятак (баксёр, дэтэктыў, доктар, авіятар) і патрапляе ў прыгоды. Назвы фільмаў не прэтэндавалі на вытанчанасць: «Макс і яго цешча», «Макс — прафесар танга», «Макс — повар з-за кахання». Дарэчы, гэта быў першы фільм, у якім Ліндэр выкарыстаў кідание тортамі, якое ўвайшло ў «залаты фонд» камічных прыёмаў і рала ў фільме «Яе першыя бісквіты» і засталася ў кіно назаўжды. Шаснаццаці год яна выйшла замуж за Оўэна Мура, таленавітага, аднак прыхільнага да віскі акцёра, што ператварыла жыццё Мэры ў пакуты. Адказваючы на жаданне гледача бачыць на экране дзяўчынку, якая любіць маму, тату і прытанскую мараль, Мэры стварыла тып высакароднай Папялушкі. Сентыментальны глядач надаў Мэры мянушку «Голдзілокс» (залатыя локаны) і хадзіў у кінатэатры паплакаць над цяжкім лёсам і абавязковым хэпі-эндам сваёй любіміцы. Мэры Пікфард становіцца самай знакамітай актрысай Амерыкі. Яна атрымоўвае 10 тысяч долараў у тыдзень і яшчэ ад прыбыткаў студыі 1 мільён долараў у год. У 1920 годзе Мэры выходзіць замуж за другую кіназнакамітасць Амерыкі Дугласа Фербенкса. Але для шчасліва жыцця ёй не хапала творчага поспеху. Пасля вайны псіхалогія публікі змянілася. Наіўная гераіня ранейшых стужак Пікфард цяпер успрымалася як нешта старамоднае. Да таго ж Фербенкс аказаўся ненадзейным спадарожнікам і пакінуў Мэры. Апошнюю ролю Пікфард сыграла ў 1933 годзе. Фільм не прынёс нічога, апроч выдаткаў, і Мэры прыняла ра-




1908. Мінск. Кінатэатр «Эдэн» (зараз на гэтым месцы універсам «Цэнтральны»)

не надакучвае рэжысёрам і гледачам па сённяшні дзень. Ліндэр разумеў псіхалогію публікі, меў багатую фантазію і напаўняў свае, карціны нечаканасцямі. Прыкладам, у шлюбную ноч яго героя даймае блыха. Страціўшы надзею схапіць блыху, Макс страляе ў яе з рэвальвера. Гэтая перамога сустракалася рогатам публікі. За пяць гадоў Макс сыграў у 240 стужках. У Еўропе, Амерыцы, Азіі імя Ліндэра стала для людзей сінонімам феерычнай весялосці.

У гэты ж час за акіянам узыходзіць зорка славы Мэры Пікфард (сапраўднае імя Глэдзіс Мэры Сміт). Калі Мэры было чатыры гады, сканаў бацька. Маці, якая мела трох дачок, аддала Мэры ў тэатр. Дзяўчынка працавала на сцэне на ролях наіўнага і добрага дзіцяці, якое дапамагае грэшнікам адшукаць шлях да дабрадзейнасці. Мэры споўнілася 13 год, калі яна прыйшла да вядомага антрэпрэнёра і рэжысёра Дэвіда Беласка і абвясціла, што хоча працаваць у яго, бо жадае стаць выдатнай актрысай. Беласка паверыў у яе магчымасці, і Мэры ўвайшла ў трупу найлепшага ў ЗША тэатра.

У 1909 годзе, маючы патрэбу ў грошах, Мэры выпадкам сыгшэнне расстацца з кіно. Чатырма гадамі пазней ёй пашанцавала ў трэцім шлюбе. Яе муж Ч. Роджэрс быў кінаакцёр, кахаў яе, яны ўсынавілі двух дзяцей з прытулку і былі шчаслівыя. Мэры пражыла доўгае жыццё, яшчэ ў 1965 годзе яна прыязджала ў Парыж на рэтраспектыўны паказ сваіх фільмаў.

Лёс Макса Ліндэра пасля сусветнай вайны склаўся менш шчасліва. Ён ставіць у Галівудзе фільмы «Будзьце маёй жонкай», «Сем гадоў няшчасця» і экранізуе «Трох мушкецёраў». Але вярнуць ранейшую цікавасць гледача гэтыя фільмы ўжо не маглі — на небасхіле кіно запаліліся новыя зоркі. Нядаўняму куміру трэба было змірыцца з сваёй непатрэбнасцю новаму пакаленню. Прыняць гэта Ліндэр не здолеў. Праз два гады Макс з маладой жонкай Элен Петэрс, якая страсна яго кахала, прыязджаюць у Швейцарыю, і тут, у гатэлі, абодва прымаюць смяротную дозу снатворнага. Іх здолелі выратаваць, але ў ноч на 31 кастрычніка 1925 года Макс і Элен на прыкладзе рымскіх патрыцыяў перарэзалі сабе вены.

Людзі сыходзяць, памяць застаецца. ■

КАНФЕСІІ

# Рымскі Папа і бел-чырвона-белыя сцягі

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**Ян Павел II праехаў уздоўж польскай усходняй мяжы, якая, мабыць, яшчэ доўга будзе падзяляць радамі калючага дроту «два светы, дзве сістэмы». Польшчу і Беларусь.**



Жонка прэзідэнта Польшчы **Іаланта Квасьнеўска** цалуе руку Папу **Яну Паўлу II**

Фота GAZETA WYBORCZA/архіў

На трох сустрэчах з Папам у Польшчы прысутнічалі і вернікі з Беларусі. Першая адбылася ў Элку. Героямі сустрэчы былі літоўцы. У Элк прыбылі ўсе 11 літоўскіх біскупаў і прэзідэнт Валдас Адамкус. Наплыў беларускіх паломнікаў быў на наступнай сустрэчы, у г.Седльцэ, што не так далёка ад Варшавы. Сярод 400-тысячнай грамады найбольш заўважнымі аказаліся вялікія сярод іншых бел-чырвона-белыя сцягі, якіх можна было налічыць каля двух дзесяткаў. Тэлекамеры польскіх апаратараў таксама часта спыняліся на вялікім транспаранце з беларускім тэкстам: «Беларусь чакае цябе, Ойча святы». Наяўнасць такой колькасці свядомых беларусаў тлумачыцца тым, што яны прыехалі не з Гродзенскай епархіі, у якой вельмі многа польскіх ксяндзоў і манашак, а з двух іншых — Мінска-Магілёўскай і Пінскай.

Набажэнства ў Драгічыне, што каля беларускай мяжы, было прысвечанае паяднанню прадстаўнікоў розных рэлігій. Хаця на гэтым спатканні было ўсяго каля 150 тысяч чалавек, польская палітычная эліта прызнала важнасць дыялогу, перш за ўсё, паміж каталікамі і праваслаўнымі. На ёй прысутнічалі польскі прэм'ер, кіраўнік верхняй палаты парламента, экс-прэзідэнт Л.Валэнса, апошні польскі прэзідэнт у эміграцыі Р.Качароўскі, кіраўнік моцнай палітычнай групоўкі М.Кшаклеўскі.

Пад час набажэнства, якое адправіў Ян Павел II на варшаўскім пляцы Пілсудскага, да ліку святых пакутнікаў ім былі далучаныя 108 ксяндзоў і простых вернікаў, якія загінулі ў час нямецкай акупацыі. Дзевяць з названых ім былі з Беларусі: восем ксяндзоў і вясковая кабета Мар'яна Бярнацкая з вёскі Навумавічы каля Гродна, якая пайшла на смерць замест сваёй цяжарнай нявесткі. Усе ксяндзы, дарэчы, былі названыя палякамі, хаця прынамсі адзін з іх — Юры Кашыра быў з праваслаўных і стаў каталіком толькі ў 18 гадоў.

Наступным разам Ян Павел II назаве імёны святых пакутнікаў, якія былі замардаваныя камуністычным рэжымам. Першым з іх будзе ксёндз Е.Пялушка, забіты ў 80-ыя гады агентамі польскай дзяржбяспекі. Здзіўляе той факт, што ў святыя пакутнікі не трапілі тыя ксяндзы, якія вялі набажэнства на беларускай мове, але таксама загінулі ад рук гестапа. Напрыклад, А.Неманцэвіч або Ст.Гляковскі, які быў расстраляны з групай іншых ксяндзоў. Нямала нашых святароў знайшлі сваю смерць і ў ГУЛАГу. Аднак пакуль яны не маюць шанцаў на беатыфікацыю, калі толькі не лічылі сябе палякамі. Адзін з беларускіх ксяндзоў сказаў мне, што палякі на 100% імкнуцца выкарыстаць у гэтай справе знаходжанне ў Ватыкане свайго земляка. Ён таксама сказаў, што акт беатыфікацыі каштуе вялікія грошы, якіх у нас няма. А падругое, хадайнічаць за сваіх пакутнікаў за веру перад Ватыканам павінны іерархі касцёла Беларусі, але яны, напэўна, такой патрэбы пакуль, на жаль, не ўсведамляюць. ■

# «Божественным» банком будет управлять немец

Отдел информации

Ватикан намеревается пригласить уходящего в августе этого года в отставку директора Бундесбанка Ханса Титмайера на должность руководителя закрытого Банка Ватикана.

Это финансовое учреждение, которое официально называется Институтом религиозных дел (ИРД), последнее время преследовали скандалы, связанные со злоупотреблениями, и обвинения в связях с мафией.

«Мы ищем человека с хорошей международной репутацией и большим опытом в банковской деятельности. Кроме этого, он, безусловно, должен быть римско-католического исповедания», — сказал представитель Ватикана. Ханс Титмайер — искренний приверженец католической веры, два его брата католические священники. Единственная сложность в смене руководителя «божественного банка» состоит в том, что Ханс Титмайер не говорит по-итальянски. ■

ТВОРЧАСЦЬ

# Новая суполка маладых літаратараў

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

Вядомы паэт і журналіст Славамір Адамовіч выступіў з ініцыятывай стварэння ў Мінску новага аб'яднання маладых літаратараў «Варштаты».

На думку самога ініцыятара гэтай літаратурнай акцыі, пытанне аб стварэнні такога аб'яднання наспела ўжо даўно, бо існуючыя літаратурныя суполкі, па словах Адамовіча, у многім не адпавядаюць настроям і патрабаванням часткі творчай моладзі.

Аснову будучага літаб'яднання складуць людзі, якія ўжо друкаваліся на старонках газеты «Наша Ніва». Пакуль суполка будзе дзейнічаць у форме штотыднёвага семінара. Першае сваё паседжанне маладыя літаратары збіраюцца правесці 27 чэрвеня ў сядзібе Таварыства беларускай мовы.

А сваю першую публічную акцыю сябры суполкі «Варштаты» маюць намер правесці 20 ліпеня, у дзень заканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. Развітанне з першым прэзідэнтам Славамір Адамовіч і кампанія збіраюцца зрабіць у форме пацыфічных чытанняў і феерверка ў Лошыцкім парку Мінска. ■

# ТБМ рыхтуе спіс ста лепшых беларускіх твораў

Марат ГАРАВЫ

Арганізатар кніжнага клуба пры Таварыстве беларускай мовы (ТБМ) імя Францыска Скарыны Зміцер Цехановіч рыхтуе да публікацыі спіс ста лепшых празаічных твораў беларускіх аўтараў XX стагоддзя.

Адной з задачаў заснаванага кніжнага клуба стане папулярызацыя беларускамоўнай кнігі. У друкаваным органе ТБМ — газеце «Наша слова» — плануецца адкрыць рубрыку, дзе будуць прадстаўленыя творы дагэтуль невядомых правінцыйных паэтаў і пісьменнікаў, а таксама рэцэнзіі на кнігі і календары. У клубе будуць наладжаныя абмен букіністычнай літаратурай, выпуск плакатаў і віншавальных паштовак, а таксама бясплатнае карыстанне бібліятэкай рарытэтаў. Паводле З.Цехановіча, кніжны клуб будзе супрацоўнічаць з настаўнікамі сталіцы, а таксама з калекцыянерамі беларускай кнігі. ■

СПОРТ

# Алімпійская карупцыя

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У Міжнародным Алімпійскім камітэце працягваюцца карупцыйныя скандалы. Сябра МАК з Аўстраліі 67-гадовы Філ Коўлз ледзь не вылецеў са складу камітэта з-за абвінавачванняў у атрыманні хабару.

Пяць месяцаў вялося расследаванне па «справе Коўлза» – яго абвінавачвалі ў атрыманні «дабротаў» ад кіраўніцтва амерыканскага горада Солт-Лейк-Сіці, дзе пройдуць зімовыя Алімпійскія гульні ў 2002 годзе. Коўлз усё адмаўляў і прыкрываўся сваім 17-гадовым досведам працы ў МАК. У выніку бакі пайшлі на кампраміс – Коўлзу было прапанавана пакінуць камісію па арганізацыі Алімпіяды-2000 у Сіднеі, а таксама не ўваходзіць у склад іншых камісіяў і працоўных групаў на працягу 2 гадоў. А генеральны дырэктар МАК Франсуа Карар заявіў, што ў тым, што рабіў Коўлз, не было складу злачынства.

Такім чынам, «скандал у вялікай спартыўнай сям'і» ўдалося замяць. Але праблема карупцыі застаецца – толькі за апошні год дзесяць функцыянераў з Міжнароднага Алімпійскага камітэта былі вымушаныя яго пакінуць. Прычына адна – атрыманне хабару ад адміністрацыі гарадоў, якія прэтэндавалі на правядзенне ў сябе Алімпіяды. Крытыкі ўпэўненыя, што карупцыйныя скандалы будуць працягвацца да таго часу, пакуль не будзе зменены механізм выбару месца правядзення галоўных спартыўных спаборніцтваў планеты. ■

# В элиту сумо попал второй иностранец

Маша ГРОМОВА

Выходец из американского штата Гавайи стал вторым за всю историю сумо иностранцем, вошедшим в элиту этого древнего японского вида спорта.

28-летний Мусашимару стал 67-м «йокозуна» (чемпионом) за все время существования этого вида спорта, два раза подряд победив в двух больших турнирах. Он победил своего соотечественника, 30-летнего Акебоно, первого «йокозуна» — не японца. Вместе борцы весят больше 450 килограммов.

Мусашимару был одним из восьми детей в семье. До того как он занялся сумо и взял себе японское имя, его звали Фиамалу Пенитани. С 1989 года он участвовал в 59 профессиональных турнирах.

В Японии не всем нравится его стиль борьбы. Кроме того, у некоторых вызывает сомнение правомочность его титула, так как две недели соревнований из состава участников из-за травм выбыли два сильнейших сумоиста.

Как и все сумоисты, Мусашимару должен соблюдать строгий кодекс. Например, ежедневно интенсивно тренироваться и носить японскую народную одежду. За это профессиональные борцы сумо получают большие деньги. Женятся они, как правило, на «мисс Япония».

Любители этого вида спорта с большим нетерпением ждут июля этого года, когда в Нагое пройдет первый с 1991 года большой турнир, в котором примут участие сразу четыре «йокозуна». ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 560 Нумар падпісаны ў друк 17/06/99 (15:00) Наклад — 22.250